№5 (5)
11—18 жніўня 1995 г.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах
Тыраж 85 000 экз.
Кошт у розніцу 700 руб.

# Народная Воля

ЗАСНАВАЛЬНІК ІОСІФ СЯРЭДЗІЧ




Газета сверстана на компьютерах "ЛИНТЕК"

***З 1 КАСТРЫЧНІКА** газета "Народная воля" будзе выходзіць як **ШТОТЫДНЕВАЯ**. Не забудзьце падпісацца*

**Как дела, земледелец?**

## Где-то хлеб убран, а где-то остается...

Все лучшие сроки уборки зерновых, можно сказать, позади. А на корню хлеба стоят еще примерно на четвертой части площадей. Из шести областей обмолот колосовых завершают пока только Брестская и Гомельская области.

— За последние дни урожайность пошла вверх или вниз? — спросил я у начальника Управления земледелия и растениеводства Министерства сельского хозяйства и продовольствия Владимира Куратника.

— Примерно на одном уровне — около 25 центнеров с гектара. Это чуть-чуть ниже прошлогоднего. Если брать все области, то самая высокая — в Гродненской (29,7 центнера). Продавая зерно нового урожая, колхозы и совхозы погашают те денежные суммы, которые получили в преддверии уборки. Правда, их не устраивают госцены на зерно. А точнее то, что по-прежнему нет паритета цен на промышленную продукцию и сельскохозяйственную. Разве это нормально, что за килограмм ржи государство платит колхозам и совхозам 700—750 рублей, а за литр дизтоплива им приходится выплачивать не менее 1890 рублей?

**Сидор КРАВЦОВ.**

**Дай Бог чутае бачыць...**

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

## "Беларусь ёсць і застанецца суверэннай дзяржавай"

— Беларусь ёсць і застанецца суверэннай дзяржавай. Як прэзідэнт, гарант суверэнітэту і незалежнасці нашай дзяржавы, я буду рабіць усё для напаўнення гэтых паняццяў канкрэтным зместам. Беларусь выканае міжнародныя абавязацельствы ў галіне раззбраення, але толькі патрэбна, каб існуючыя тут праблемы вырашаліся комплексна, па-чалавечы, а не за кошт нашага шматпакутнага народа. У сваёй краіне мы будзем цвёрда прытрымлівацца міжнародных стандартаў у галіне правоў чалавека.

**(З выступлення прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі на пашыраным пасяджэнні калегіі Міністэрства замежных спраў).**

**Свецкая хроніка**

## Галіна Вашчанка — жонка Зянона Пазьняка, але ніякая не сваячка вядомага мастака Гаўрылы Вашчанкі

**Усе газеты абляцела навіна: нязменны лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк павянчаўся з Галінай Вашчанка, інспектарам па кантролю за выкананнем Закона аб мовах Мінскага гарвыканкама. Многіх цікавіць: адкуль яна родам, дзе вучылася, ці не даводзіцца яна сваячкай вядомаму мастаку Гаўрылу Вашчанку?**

**Журналіст "Народнай волі" Віктар Мураўскі звязаўся з Галінай Фёдараўнай і задаў ёй некалькі пытанняў.**

**— Скажыце, калі ласка, дзе і ў якой сям'і Вы нарадзіліся?**

— На Лагойшчыне, у сям'і вясковых інтэлігентаў. Бацька — партызан, а пасля вайны настаўнічаў, пры гэтым шмат гадоў быў дырэктарам школы. Маці таксама вучыла дзяцей.

**— І Вас, мабыць, пацягнула ў педагогі?**

— Так, так. Пасля школы паступіла ў педінстытут, затым працавала ў мінскай сярэдняй школе N 7, у інстытуце культуры, навукова-даследчым інстытуце педагогікі, закончыла аспірантуру.

**— Многіх, сапраўды, цікавіць, ці не з'яўляецеся Вы часам сваячкай таленавітага мастака Беларусі Гаўрылы Вашчанкі?**

— Гаўрылу Харытонавіча Вашчанку я паважаю, але сваячкай яму не даводжуся.

**— З Зянонам Станіслававічам Вы павянчаліся зусім нядаўна, і мне неяк няёмка пытацца, як сямейнае жыццё-быццё... Мабыць, усё нармальна?**

— Больш чым нармальна.

**— Шчасця Вам, Галіна Фёдараўна і Зянон Станіслававіч!**



## Курсы обмена наличных валют на 10 августа 1995 г.

| Наименование банка | Доллар США Покупка | Доллар США Продажа | Немецкая марка Покупка | Немецкая марка Продажа | Российский рубль Покупка | Российский рубль Продажа | Телефон для справок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Абсолютбанк*** | 11580 | 11770 | 8150 | 8480 | 2,50 | 2,60 | 636-080 |
| | 11522** | | | | | | |
| 2. Белагропромбанк | 11550 | 11750 | 8100 | 8400 | 2,40 | 2,60 | |
| 3. Беларусбанк | 11500 | 11750 | 8100 | 8400 | 2,40 | 2,60 | 067 |
| 4. Белбизнесбанк (гл. операц. управ.) | 11500 | 11750 | 8000 | 8300 | 2,30 | 2,70 | 067 |
| 5. Белбизнесбанк (городская дирекция) | 11550 | 11780 | 8150 | 8350 | 2,45 | 2,60 | |
| 6. Белвнешэкономбанк | 11550* | 11780 | 8190* | 8350 | 2,20 | 2,60 | 267-022 |
| 7. Белинвестбанк | 11550 | 11790 | 8100 | 8500 | 2,45 | 2,60 | |
| 8. Белпромстройбанк | 11500 | 11750 | 8200 | 8400 | 2,45 | 2,60 | |
| 9. Белсвязьбанк | 11500* | 11750* | 8200* | 8500* | 2,50* | 2,61* | 327-249 |
| 10. Ф-л "Велес" АКБ "Дукат"*** | 11600 | 11740* | 8250 | 8500* | 2,50 | 2,70 | |
| | 11500** | | 8200** | | | | |
| 11. ФК "Вероника"*** | 11560* | 11760* | 8200* | 8500* | 2,55* | 2,65* | 531-504 |
| (за российские рубли) | 4460 | 4550 | 3180 | 3280 | | | |
| 12. ДепозитКомплексбанк*** | 11550* | 11750* | 8170* | 8380* | 2,52* | 2,625* | 291-675 |
| (за российские рубли) | 4465 | 4560 | | | | | |
| 13. "Дукат" | 11500* | 11750 | 8100* | 8400 | 2,30* | 2,70** | 201-063 |
| 14. "Inko" | 11550 | 11730 | 8150 | 8350 | 2,45 | 2,55 | 266-371 |
| 15. "Интерконтиненталь-СКВ" | 11520* | 11750 | 8000* | 8400 | 2,20 | 2,50 | 293-095 |
| 16. Ф-л "Карат" АКБ "Дукат" | 11600 | 11750 | 8150 | 8350 | 2,55 | 2,61 | 319-487 |
| | 4450 | 4600 | | | | | |
| 17. Магнатбанк | 11560 | 11790 | 8250 | 8390 | 2,51 | 2,70 | |
| 18. Магнатбанк, ф-л 001 | 11570* | 11770* | 8150* | 8350* | 2,42* | 2,58* | |
| 19. Ф-л "Милавица" АКБ "Дукат" | 11550* | 11750* | 8100 | 8400 | 2,30 | 2,60 | 372-825 |
| 20. Минский транзитный банк | 11500* | 11750* | 8100* | 8350* | 2,35* | 2,65* | 298-174 |
| 21. Народный банк | 11550 | 11800 | 8200 | 8420 | 2,48 | 2,60 | 238-610 |
| 22. АКБ "Новоком" | 11550 | 11780 | 8100 | 8400 | 2,50 | 2,60 | |
| 23. "Олимп" | 11520* | 11730 | 8002* | 8314* | 2,50* | 2,60* | 508-556 |
| | | 11600** | | | | | |
| 24. Ф-л N1 АКБ "Олимп" | 11580* | 11800* | 8200* | 8300* | 2,53* | 2,58* | 291-646, 067 |
| 25. Приорбанк | 11550* | 11800 | 8100* | 8400 | 2,40 | 2,60 | |
| 26. РРБ-банк | 11500 | 11750 | 8100 | 8300 | 2,40 | 2,70 | |
| 27. Сбербанк | 11500 | 11780 | 8150 | 8380 | 2,40 | 2,55 | 067 |
| 28. Технобанк*** | 11500 | 11740 | 8200 | 8400 | 2,55 | 2,63 | 207-253 |
| (за российские рубли) | 4450 | 4600 | 3200 | 3300 | | | |
| 29. Элитбанк | 11450 | 11750 | 8200 | 8350 | 2,30 | 2,60 | 313-050 |
| 30. Национальный банк РБ (курс для безналичных расчетов) | | 11500 | 8150,54 | | | 2,59 | |
| 31. Центробанк России | | 4405 | 3123,23 | | 10 BRB 3,83 | | |

* — Возможна операция за наличный и безналичный расчет

** — Операция проводится только по безналичному расчету

*** — Операция с валютой свыше 1000 долларов производится на договорных условиях

**Информация предоставлена агенством Гревцова.**

**Крызіс**

## "Чырвоныя дырэктары" вядуць завочную дуэль з прэзідэнтам. Хто пераможа?

**Іван КАЛІНКІН**

У чым іх толькі не вінавацяць! Калісь адзін высокі чын называў іх не інакш, як "чырвонымі дырэктарамі". Маўляў, майстры толькі балбатаць, а не працаваць. Сёння высокія асобы спіхваюць на іх многія беды — гэта яны запусцілі вытворчасць, першкаджаюць прэзідэнту...

Вядома ж, сярод іх ёсць і першыя, і другія. Але ёсць і трэція, тыя, якія не толькі добра працуюць нават у сённяшніх умовах, але і выдатна бачаць перспектыву. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова было пабываць на чарговым пасяджэнні Беларускай навукова-тэхнічнай асацыяцыі, якая адбылася нядаўна і выпрацавала свае прапановы Кабінету Міністраў па вываду прамысловасці з крызісу.

Абмеркаванне ішло ціха, спакойна. І без палітыкі. "Хопіць яе. Летась ужо наеліся", — сказаў адзін з удзельнікаў нарады, былы генеральны дырэктар "Гарызонта", а цяпер кіраўнік фірмы "Некер" Аляксандр Санчукоўскі.

Падчас дэбатаў ніхто не спасылаўся на ўрад, прэзідэнта. Але ў мяне склалася ўражанне, што тут ішла ціхая завочная дуэль з кіраўніцтвам краіны. Бо тое, на чым настойваюць прамыслоўцы ў сваіх прапановах, карэнным чынам адрозніваецца ад прэзідэнцкага курсу. Пра гэта ўжо гаворыць першы пункт пастановы асацыяцыі. Вось ён. "Ліквідаваць штучную стабілізацыю беларускага рубля, прывесці яго да долара ў адпаведнасці з тэмпамі інфляцыі". Гэтай сваёй высновай яны нібыта сцвярджаюць, што прэзідэнт гаварыў нам па тэлебачанні няпраўду, калі маляваў пасляховую барацьбу ўлад з інфляцыяй, за стабілізацыю фінансавай сферы.

У розныя бакі разышліся погляды ўрадаўцаў і прамыславікоў наконт Еўропы. Калі першыя не раз заяўлялі, што нас у Еўропе ніхто не чакае, мы там не патрэбны, дык удзельнікі асацыяцыі адразу адкінулі прэч гэты тэзіс і ўзяліся за выпрацоўку мер, якія, на іх думку, дазволяць прыцягнуць у Беларусь замежных інвестараў. Вось што яны раяць. "Забяспечыць гарантыі ўвозу і вывазу капіталу, гарантаваць яго абарону ад палітычных змяненняў... Вызваліць ад падаткаў сродкі замежных інвестараў і прыбытак прадпрыемстваў, якія накіроўваюцца на развіццё экспартнай вытворчасці, укараненне сучасных тэхналогій і тэхнічнае пераўзбраенне... Устанавіць бяспошлінны ўвоз замежнымі інвестарамі асноўнага капіталу і неабходных для новай вытворчасці матэрыялаў, прадаставіць ім ільготы пры экспарце ўласнай прадукцыі..." І цэлы шэраг іншых такіх агульнавядомых мер прапаноўваюць спецыялісты асацыяцыі. Мер абсалютна неабходных, бо без замежных інвестыцый нам ужо не выкарабкацца з крызісу.

Заслугоўваюць увагі прапановы па ўдасканаленню мытні. У прыватнасці, прамыслоўцы настойваюць, каб адмяніць мытныя пошліны на імпарт абсталявання, новых тэхналогій і сыравіны, якой няма ў Беларусі. Яны выступаюць за спрашчэнне мытных працэдур.

Усё гэта, несумненна, паспрыяла б справе. Вось толькі ці прыслухаецца ўрад? Ды і ці згодзіцца на гэта Расія, з якой мы ўжо звязаны мытным дагаворам і без згоды якой нельга ўносіць кардынальныя змены. І якая, я думаю, абсалютна не зацікаўлена ў развіцці нашых эканамічных кантактаў з Захадам. Яна хоча спіхваць сюды, да нас свае ўчарашнія тэхналогіі і вырабы, якія нідзе не карыстаюцца попытам. Як гэта ўжо здарылася з аўтамабілямі, Расія заламала такія пошліны на ўвоз легкавікоў з Захаду, што яны сталі не па кішэні беларусу. Навошта так зроблена? А каб мы куплялі іхнія "Жыгулі", цэны на якія, дарэчы, тут жа падскочылі. Такім чынам, прэзідэнт адным росчыркам пяра на мытным дагаворы з Расіяй пазбавіў Беларусь эканамічнай незалежнасці, перакрыў сюды дарогу новым заходнім тэхналогіям.

Варта адзначыць яшчэ адну важную прапанову спецыялістаў асацыяцыі. Яны раяць даць ільготы падатковыя, амартызацыйныя і іншыя тым прадпрыемствам, якія асвойваюць і выпускаюць канкурэнтаздольную прадукцыю. І гэта вельмі правільна. Сапраўдны гаспадар павінен ствараць найлепшыя ўмовы для "курыцы, якая нясе залатыя яйкі", а не пускаць яе пад нож.

Навукова-прамысловая асацыяцыя ўносіць прапановы па змяншэнню падатковага ўціску, структурнай перабудове прамысловасці, паскарэнню прыватызацыі, спрашчэнню парадку пры правядзенні знешнеэканамічных аперацый, для чаго, на думку прамыслоўцаў, варта прыпыніць дзеянне ўказа прэзідэнта N 52 ад 8.02.95 г.

Зменшыць, спрасціць, дазволіць... Такія падыходы даўно паспелі і пераспелі. Але чым тады будзе займацца процьма чыноўнікаў? А калі рэзка знізіць падаткі, дык як яны будуць харчавацца?

Вось чаму ў прапаноў асацыяцыі, мне думаецца, мала шанцаў на тое, што іх прымуць. Як сказаў адзін прамоўца, нават калі іх і ўхваляць, дык праз пару месяцаў забудуць, каб не рэалізоўваць, як было ўжо не раз. А другі ціхенька шаптаў суседу на вуха: "Цяпер нас душаць падаткамі, праверкамі, грамадскай думкай, што мы тармозім справу... А хутка пачнуць здымаць загадамі. Пасля такіх прапаноў рэпрэсіі могуць пачацца раней".

Няўжо такое будзе?

Вышэйзгаданыя рэплікі сведчаць пра тое, што няма пакуль што партнёрства паміж "чырвонымі дырэктарамі" і "самым народным" прэзідэнтам. Надта па-рознаму яны разумеюць шляхі выхаду з крызісу. Спецыялісты асацыяцыі яскрава бачаць, у якую багну цягне краіну кіраўніцтва і вядуць з ім ціхую завочную дуэль. У інтэлектуальным плане яны выйграюць яе ў прэзідэнцкай каманды. А вось у арганізацыйным?..

## Пад бел-чырвона-белым сцягам развіталася Беларусь з Максімам Танкам

Перастала біцца сэрца вялікага сына маёй зямлі Максіма Танка. Яго зорцы, як лічыў Рыгор Шырма, вечна ззяць у сузор'і Купалы і Коласа.

Тысячы мінчан прыйшлі 9 жніўня развітацца з народным песняром Беларусі. Пісьменнікі, мастакі, артысты, рабочыя, землякі... Плылі вянкі, кветкі, лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Яго цалавалі. На вочы мімаходзь наварочваліся слёзы. Развіталіся не толькі з паэтам, які праславіў Беларусь на ўвесь свет, але і з цэлай эпохай.

Максім Танк, як і Алесь Адамовіч, пажадаў, каб пахавалі яго на радзіме: на мілым сэрцу Нароччы, апетым ім у паэмах і вершах. Мядзельская зямля дала нам яго, выпеставала, узгадавала, акрыліла, яна і забрала. Там, у Пількаўшчыне, дзе паэт рыбачыў, араў, касіў, сярод блізкіх і родных людзей знайшоў ён апошняе прыстанішча.

*Клічуць мяне, ля расстайных дарог,*
*Сосны, якіх я ад куль не збярог...*
*Попел радзімы і цені братоў*
*З-пад незарослых магіл-курганоў.*

Гэты кліч з гадамі станавіўся ўсё больш і больш уладным. Яму было ўсё цяжэй супрацьстаяць. Не стала жонкі, дачкі... Толькі думы пра вольную Беларусь, жаданне яшчэ хоць што-небудзь зрабіць для яе шчасця, яе славы, падтрымлівалі нязломны дух, згасаючыя сілы. Ён спяшаўся завяршыць свой круг, не лез у вялікую палітыку, не выступаў арбітрам у спрэчках правых і левых. Хто скажа сёння, што думаў, што згадваў паэт у апошнія гадзіны свайго жыцця. Можа, сяброў па Радашкавіцкай беларускай гімназіі, з якой быў выключаны за ўдзел у школьнай забастоўцы, ці віленскую турму "Лукішкі", дзе адбываў пакаранне?.. Магчыма, хвілі трыумфу, калі бунтарная моладзь пасля паэтычнай вечарыны вынесла яго з залы на руках.

Так ужо здарылася, што не заўсёды на зямлі нашай цанілі талент. Але ён у Максіма Танка настолькі яркі, самабытны, што не заўважыць яго было немагчыма. З гадамі слабеў бунтарны дух, але не талент паэта. Здзіўлялі свет яго паэмы, вершы, цудоўныя вобразы вольнага краю, слынных продкаў. Ніводзін літаратар Беларусі не заслужыў столькі ўзнагарод, як Максім Танк. Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўных прэмій, кавалер чатырох ордэнаў Леніна, ордэнаў Чырвонага Сцяга, Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дружбы народаў, афіцэрскага крыжа Адраджэння Польшчы.

Уладзімір Калеснік назваў Максіма Танка "носьбітам ідэала, харавства — чалавекам усебакова развітым, прыгожым і целам, і духам...".

Не верыцца, што ўжо ніколі не ўбачыць яго высокую постаць сярод калег у Доме літаратара, не пачуць добры, ласкавы голас паэта. Над ім сёння шумяць нарачанскія сосны.

**Васіль ШЫРКО,**
**пісьменнік.**

**Вопрос ребром...**

## Останемся без мозгов?

Может ли ученый нормально мыслить, получая в месяц каких-нибудь 400—500 тысяч белорусских "зайчиков"? А способен ли толковый специалист на реализацию сложной современной идеи, зарабатывая за четыре недели столько, сколько необходимо для покупки двух килограммов хорошей колбасы?

Странные вопросы, скажете вы. Не столько странные, сколько печальные. Из-за того, что в нашем родном государстве даже прекрасные ученые и опытные специалисты не могут обеспечить себе нормальный жизненный достаток, из республики "уплывает" все больше и больше "мозгов". Уже почти двести тысяч белорусских специалистов работают за границей.

Мозги ценятся во всем мире. Когда они будут цениться в Беларуси?

**Галина ПЕТРАШЕВИЧ.**

## Подпишись сам и подскажи другому!

**Чуть более двух недель осталось до завершения подписки на газеты и журналы на IV квартал 1995 года.**

**Вы выбрали "Народную волю"? Правильно сделали. С 1 октября она будет выходить как ежедневная газета, на белорусском и русском языках. Повторяем: наш принцип — честность и объективность, наша география — Беларусь и весь мир. Подписавшись на "Народную волю", Вы и Ваша семья будете в курсе всех политических, экономических, культурных, спортивных и других событий. Вам не понадобится искать программу телевидения — она найдет место в каждом номере. Официальные и неофициальные документы президентской администрации, парламента, правительства, юридические консультации, советы по ведению домашнего хозяйства, рекомендации по сохранению и укреплению здоровья, справочная информация, кроссворды, шахматно-шашечные разделы, что предсказывают знаки зодиака — все это и многое другое Вы найдете на страницах республиканской независимой газеты "Народная воля" Заметим, редакция сделала все, чтобы "Народная воля" по цене была одной из самых доступных газет в республике. Стоимость подписки на один месяц — 12 тысяч рублей, на два — 24 тысячи, на квартал — 36 тысяч рублей. Вам остается заполнить абонементный талон и, не теряя времени, отнести его на почту, в любой подписной пункт. Наш индекс — 63222. Вы — с "Народной волей", а мы — с Вами!**

***Редакция газеты "Народная воля".***

## Московскому мэру понравилось, как спланирован и построен Минск

"Минск очень хорошо спланирован, это красивый современный город, который мне очень нравится", — сказал мэр Москвы Юрий Лужков во время своей беседы с руководителем белорусского правительства Михаилом Чигирем. "Я знаю, что ваш бывший главный архитектор сейчас работает у нас, в Москве", — добавил Юрий Лужков.

Корреспондент БелаПАН связался с комитетом по архитектуре и градостроительству белорусской столицы, где уточнил, что московский мэр имел в виду Юрия Григорьева, который с 1974 по 1986 год трудился в Минске. Юрий Пантелеймонович работал в институте "Минскпроект", затем возглавлял Главное архитектурно-планировочное управление Минска и одновременно занимал пост заместителя председателя Госстроя БССР. Он — заслуженный архитектор РСФСР. В настоящее время выпускник Московского архитектурного института работает в московской мэрии.

Юрий Лужков во время беседы с Михаилом Чигирем сообщил также, что в Москве сейчас строят очень много жилья. А в будущем году в российской столице намерены увеличить объемы сдаваемой жилой площади еще на 30% по сравнению с годом нынешним. Кстати, проблемы жилищного строительства настолько органично вплелись в канву переговоров, что в соглашение о сотрудничестве между Республикой Беларусь и Москвой пришлось вносить дополнительный пункт: о поставках белорусских строительных материалов в столицу России.

**БелаПАН.**

**Гэта так...**

## Без свабоднага слова незалежнасць нашай дзяржавы не мае перспектывы

Выхад "Народнай волі" — свабоднага, дэмакратычнага выдання з шырокім спектрам думак горача вітаюць усе нацыянальна свядомыя, патрыятычна настроеныя беларусы, усе сумленныя грамадзяне Беларусі. Без свабоднага слова незалежнасць нашай дзяржавы не мае перспектывы, нацыянальнае адраджэнне загіне.

Рэферэндум яскрава паказаў, што наш народ толькі прачынаецца, ён усё яшчэ знаходзіцца ў летаргічным сне гістарычнага бяспамяцтва, яго нацыянальная свядомасць і псіхалогія моцна атрафіраваны і скажоны.

Найважнейшая задача газеты — будзіць у беларусах пачуццё гонару і годнасці за сваю нацыю і сваю зямлю, несці ў масы праўду аб гісторыі, традыцыях, звычках нашага старажытнага народа.

У вашай газеце, шаноўны Іосіф Паўлавіч, высакародная місія — удыхнуць у беларусаў Дух **Нацыянальнага Адраджэння.** Ведаю, вам будзе цяжка, асабліва напачатку, але веру ў ваш і вашых паплечнікаў талент, волю і энергію.

Дапамагчы газеце "Народная воля" маральна і матэрыяльна — доўг усіх, хто хоча, каб Беларусь была незалежнай, свабоднай, дэмакратычнай і квітнеючай краінай.

**Мікола ЯРМАШЭВІЧ,**
**г.Брэст.**

Шчырая размова

Валянцін ГОЛУБЕЎ:

# "У смерць апазіцыі не веру"

**— Сярод разважанняў пра памылкі апазіцыі чуваць і галасы, якія сцвярджаюць аб палітычнай смерці той дэпутацкай групы, у якую ўваходзілі дэпутаты Пазьняк, Голубеў, Навумчык, Заблоцкі ды іншыя. Можа, сапраўды наступіў час падняць белы сцяг?**

— Мяркую, што так ставіць пытанні няправільна з усіх бакоў. Безумоўна, скончыўся пэўны этап у палітычным развіцці нашай краіны. І, адпаведна, пэўны этап у жыцці апазіцыі. Гэта досыць аб'ектыўная з'ява. Усё роўна апазіцыя, якая была прадстаўлена адной палітычнай арганізацыяй — Беларускім народным фронтам — павінна была ператварыцца ў нешта больш шырокае. Што адбылося сёння? БНФ аб'ектыўна перастаў быць адзінай апазіцыйнай сілай. Пяць гадоў таму існавалі дзве палітычныя сілы: камуністычная партыя і Народны фронт. І на тых выбарах у буйных гарадах насельніцтва падтрымала менавіта антыкамуністычныя сілы. Але час прайшоў, змянілася палітычная сітуацыя. Як я бачу, яна не змянілася ў бок да камуністычнай ідэі. Змены адбыліся ў бок нейкай апатыі да палітычнага жыцця, калі людзі нікога не хочуць выбіраць.

**— Вось і за вас не прагаласавалі...**

— Менавіта таму я і не думаю, што наступіла смерць апазіцыі, я ў гэта проста не веру. Змянілася палітычная сітуацыя, павінна была змяніцца і апазіцыя, мы самі. Канешне, пяць гадоў таму агітацыя супраць нас была не меншай, але тады людзі прынцыпова прагаласавалі за прадстаўнікоў БНФ. Калі зараз яны гэтага не зрабілі, то я лічу, прычыны трэба перш за ўсё шукаць унутры самой арганізацыі.

**— Згодзен, што быў пражыты пэўны гістарычны перыяд, але ці не скончыўся ён недзе два-тры гады таму, а не ў траўні гэтага года. Ці не адбылося так, што Фронт жыў надзеяй на нацыянальнае абуджэнне, прыкладна як гэта было ў Літве, у той час як Беларусь пайшла сваім шляхам? А народнафронтаўцы гэтага нават не заўважылі?**

— На гэты конт многа меркаванняў. Я прытрымліваюся той думкі, што Фронт стварaўся як база для больш шырокай апазіцыі. Віна не толькі Фронту, але і ўсяго грамадства, што гэтага не адбылося. Хоць на аснове Фронту ўзнікалі многія палітычныя партыі.

**— Але Фронт заставаўся для іх бацькам, не прызнаваў роўнасці, нават змагаўся з імі за лідэрства. Ці не таму і не ўтварылася шырокай дэмакратычнай апазіцыі?**

— Што было, тое было. Але я хутчэй звярну ўвагу на той момант, што Фронт дагэтуль застаецца сістэмай, якая нараджае новыя палітычныя плыні, новыя партыі. Вось і зараз напагатове яшчэ адна плыня — хрысціянска-дэмакратычнага накірунку. Мы бачым з'яўленне ў нетрах БНФ як нацыянальных партый, так і тых, якія падымаюць у якасці галоўных арыенціраў грамадзянскія ідэі. Такім чынам, БНФ застаецца своеасаблівай альмаматэр для самастойных палітыкаў у Беларусі, і менавіта таму я б не стаў прад'яўляць прэтэнзіі да Фронту, пра якія вы казалі. Вялікі Божа ведае, што робіць. Знікае вузкая пазіцыя, што была толькі ў парламенце, і з'яўляецца больш шырокая. І гэта нармалёва.

**— Ці не робіце вы новую памылку? Здаецца, наша нацыянальная рыса якраз такая, што ў нас не любяць апазіцыйнасць. Колькі ні змагалася парламенцкая апазіцыя за паляпшэнне кожнага закона, кожнага артыкула, А набыла ў выніку імідж скандалістаў і дэмагогаў. Зразумела, у пэўнай частцы насельніцтва. Але менавіта гэтая частка і сказала сваё рашучае слова на рэферэндуме і выбарах.**

— А што было рабіць? Не змагацца? Канешне, то была змагарная апазіцыя. Усе нашы прапановы, распрацоўкі з парога адвяргаліся. Большасць ішла на супрацьстаянне, і меншасць павінна была адказваць гэтак жа. Што ж датычыцца нацыянальных рыс, то я не лічу змагарства неадпаведным нашаму нацыянальнаму характару... Вядома, змены ў тактыцы апазіцыі павінны быць. У чым я бачу новую апазіцыю? Усе партыі, якія не знаходзяцца ва ўладзе, выносяць і прапагандуюць свае праграмы, планы развіцця дзяржавы. Альтэрнатыва — гэта і ёсць апазіцыя. Чаму я кажу пра магчымасць шырокай апазіцыі? Я сустракаўся з новымі дэпутатамі — і з прадстаўнікамі правага руху, і левага, і з аграрыямі, і з камуністамі. Бачу, што гэтыя людзі ўжо інакш ставяцца да такога паняцця як дзяржаўнасць. Большасць з іх разумеюць вялікую каштоўнасць дзяржавы. Між тым цяперашняе кіраўніцтва краіны паступова здае дзяржаўніцкія пазіцыі — усе гэта бачаць. Таму я і лічу, што ёсць падставы аб'яднацца ў шырокую апазіцыю на платформе дзяржаўнасці. Ну, акрамя розных ліберал-дэмакратаў ці славянскіх сабораў, за якія галасавалі лічаныя выбаршчыкі. Што ж датычыцца камуністаў, то нават яны ўжо розныя. Ранейшыя камуністы-дэпутаты былі дэпутатамі БССР, і яны ўвесь час адстойвалі інтарэсы БССР і СССР, што і пацвердзілася напрыканцы, калі ўзнавілі свята 7 лістапада. Зараз прыйшлі ў парламент камуністы-беларусы. У нас могуць не супадаць падыходы да рынкавых адносін ці сацыяльнага забеспячэння, але для нас галоўнае пытанне, як зрабіць багатай менавіта Беларусь. Мы можам змагацца палітычна, але і магчымасці супрацоўнічаць знайсці зможам.

**— Няўжо раней такой магчымасці не было? Няўжо камуністычная фракцыя ў парламенце цалкам складалася з супраціўнікаў незалежнасці, што вы не маглі з імі нават кантактаваць?**

— Некалькі "іншадумцаў" было, але нават паразмаўляць з імі ўдавалася ва ўмовах, калі чалавек нейкім чынам расслабіўся. То ж былі іншыя людзі. Гэта зараз шмат будзе дэпутатаў менавіта абраных, а тады іх фактычна прызначалі ў райкамах, абкамах, ЦК партыі. Вызначалася, хто пойдзе на выбары, а далей сістэма стварала гэтаму кандыдату спрыяльныя ўмовы. І ён заставаўся чалавекам сістэмы і адпаведна галасаваў. Чаму ж, напрыклад, нашы прапановы пры пайменным галасаванні збіралі менш галасоў? Таму што людзі баяліся паказаць свае адносіны. Да нас неаднойчы падыходзілі і прасілі: "Толькі не стаўце пытанне на пайменнае галасаванне".

**— Давайце ўспомнім, як утваралася апазіцыя. Якія былі яе першыя крокі?**

— Спачатку стварыўся так званы дэмакратычны клуб колькасцю недзе пад сто дэпутатаў. Накшталт дэмклуба ў апошнім савецкім парламенце. Туды запісаліся і будучыя фронтаўцы, і сённяшнія дэмакраты, такія як Станіслаў Шушкевіч ці Генадзь Карпенка. Некаторыя сённяшнія міністры, напрыклад Інэса Драбышэўская. Шмат было людзей, якія прыходзілі на ўсялякі выпадак. Некалькі разоў з'яўляўся на пасяджэнні дэмклуба і Аляксандр Лукашэнка, які тады выступаў з ідэяй рэфарміравання кампартыі. Па тых часах некаторыя яго словы гучалі даволі радыкальна. Але клуб ёсць клуб. Калі прыйшоў час змагацца, прынцыпова адстойваць рэальныя змены, у апазіцыі засталося няшмат людзей. Была створана апазіцыя БНФ як парламенцкая фракцыя. Ужо потым узнікла і фракцыя Грамады, мы дзейнічалі разам.

Канешне, у гэтай мадэлі былі свае плюсы — арганізаванасць, дысцыпліна, — але і мінусы, бо многія з нашых патэнцыяльных хаўруснікаў не хацелі падпарадкоўвацца Фронту. Сыграў сваю ролю і міжасабовы фактар, асабліва паміж найбольш уплывовымі палітычнымі фігурамі.

**— Заўважана, што сярэдні ўзрост апазіцыі быў недзе на дзесяць гадоў маладзейшым. Адрозніваліся вы і па адукацыі — больш гуманітарыяў. Калі не сакрэт, што яшчэ не спрыяла збліжэнню?**

— Ды хоць бы такое становішча: кожны дзень апазіцыя заставалася ў парламенце, каб папрацаваць на заўтрашні дзень, а большасць ад'язджала ў гатэль, дзе і выкарыстоўвала адпаведным чынам свой вольны час. І ў гэтым няма нічога дрэннага, калі разважаць па-чалавечы. Канешне, для палітыкаў большы плён прыносіць самастойная праца над законапраектамі. Але навошта гэта было гаспадарчым дзеячам з дэпутацкімі мандатамі? А зараз узгадайце, ці не было нейкай напружанасці паміж студэнтамі, што жывуць у Мінску дома, і тымі, хто гуртуецца ў інтэрнаце. Дадайце, што апазіцыя ўся пазнаёмілася менавіта ў парламенце, а большасць ведала адзін аднаго і раней: па вучобе ў партшколах, па камсамолу і г.д.

**— Цікава, чаму ў апазіцыі, якая амаль не мела наменклатурнага вопыту, сувязей, у рэшце рэшт склаліся добрыя адносіны з апаратам Вярхоўнага Савета?**

— Па-першае, у Вярхоўным Савеце усё ж працуюць добрыя прафесіяналы. Там хапае людзей са старой сістэмы, але досыць высокаадукаваных, інтэлігентных, працавітых спецыялістаў. Далей усё зразумела. Апазіцыя, хоць гэта гучыць і нясціпла, працавала шмат і вельмі ўпарта. А сапраўдныя прафесіяналы не маглі гэтага не заўважыць.

**— Ці былі нейкія сумесныя мерапрыемствы, якія б вы выкарыстоўвалі для збліжэння з большасцю? Нешта нефармальнае?**

— Спецыяльна ніхто нічога не праводзіў, і мэты такой не ставіў. Вядома лідэры палітычных груповак маглі сустрэцца на нейкіх дыпламатычных раутах, нейкія кантакты паміж імі былі, але нічога важнага я не адзначу. Больш-менш плённыя сувязі завязваліся падчас камандзіровак, асабліва замежных. Што яшчэ можна ўзгадаць? Маладыя дэпутаты нейдзе на працягу двух гадоў раз у тыдзень гулялі ў футбол у вайсковай часці ва Уруччы. Сам я ў гэтым не ўдзельнічаў, але ведаю, што мерапрыемства наведвалі Аляксандр Лукашэнка, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, які быў, кажуць, добрым галкіперам, Юрый Беленькі. Можна ўзгадаць сумесны выезд у розныя раёны чарнобыльскай зоны. Але вось, здаецца, і ўсё. Дадаць можна хіба што развітальны банкет, які наладзіў прэзідэнт. Але мы ў ім не ўдзельнічалі.

**— А што, акрамя палітычнай барацьбы, штодзённай працы над дакументамі, замежных паездак і прэс-канферэнцый застанецца ў памяці? Нейкія жыццёвыя замалёўкі застануцца?**

— Так, цэлая эпоха адышла на нашых вачах. Варта было б пачаць хаця б з таго, як "таварыш" Лагір не змог правесці першае пасяджэнне сесіі па сцэнарыю, зацверджанаму ў ЦК. Потым адзін за другім знікалі з авальнай залы камуністычныя сімвалы — велізарная галава Леніна, БССРаўскі сцяг. Бел-чырвона-белы сцяг упершыню ў залу ўнеслі дэпутаты Кавалёнак і Лукашэнка, яго падаравалі ім дэманстранты з плошчы Незалежнасці. Потым у зале з'явілася прэзідэнцкая трыбуна, і калі я яе ўпершыню ўбачыў, то нібыта сфатаграфаваў той момант назаўсёды. Потым за ёй з'явіліся ранейшыя колеры... Але многія падзеі я не хачу ўзгадваць не таму, што яны мне не запомніліся ці балюча пра іх успамінаць. Проста яны яшчэ не скончыліся. Пачатак быў пакладзены, а да вынікаў нам ісці яшчэ доўга. Мне здаецца, што мы ўпартыя і гэтыя вынікі абавязкова будуць.

Гутарыў
Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ.

Приватизация

## Чертова дюжина аукционов в цифрах

Почти два года минуло с того дня, как, приняв программу малой приватизации, Брест приступил к проведению аукционов по продаже объектов городской коммунальной собственности, сделав упор на сферу торговли и общепит. Таких аукционов проведено уже тринадцать.

Ни общественное мнение, ни даже специалисты, кажется, так и не определились в своем отношении к сему веянию времени. Так, по мнению посетившего недавно Брест экс-мэра Нижнего Новгорода Дмитрия Беднякова, приватизация здесь проходит вяло и медленно. Но то, что кажется вялым с позиции города, в котором осталось не более 10—15 процентов государственных магазинов, в самом Бресте кому-то видится очередным обманом трудящихся и новой формой "прихватизации", первоначального накопления капитала. Чтобы не вступать ни с одной из сторон в полемику, обратимся к цифрам беспристрастной статистики.

Из 166 предприятий торговли и общепита, состоявших в городской коммунальной собственности на сентябрь 1993 года, на сегодня в частные руки ушло 75 объектов (около 46 процентов). Это 28 промтоварных магазинов (5 проданы в собственность и 23 переданы в частные руки с правом аренды помещений), 19 продовольственных магазинов (11 — в собственность, 8 — в аренду) и 10 предприятий общественного питания (5 — в собственность и 5 — в аренду).

Лишь 17 процентов от всех проданных объектов приобрели трудовые коллективы.

Вырученная казной общая сумма составила 2 миллиона 17 тысяч долларов, не считая 200 тысяч долларов, полученных городом от продажи с правом аренды одиннадцати помещений ЖРЭУ.

Валерий СТРЕЛЬНИКОВ.

## Литовскому автомобилю — зеленый свет!

**Владельцы и пользователи автотранспортных средств Литовской Республики согласно постановлению Кабинета Министров Беларуси освобождены от уплаты сборов за проезд указанных средств по автомобильным дорогам общего пользования нашей страны.**

Постановление принято на основании одиннадцати тысяч разрешений, выдаваемых в соответствии с Соглашением между правительством Беларуси и правительством Литовской Республики о международном автомобильном сообщении. РИД.

## У ваеннай акадэміі ёсць начальнік

**1 верасня павінны пачацца заняткі ў нядаўна створанай у адпаведнасці з указам прэзідэнта і рашэннем урада Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь.**

Першым яе начальнікам днямі прызначаны 46-гадовы генерал-маёр Рыгор Флерка. Ён беларус, за плячыма салідны камандзірскі вопыт і дзве ваенныя акадэміі: імя Фрунзе і Генеральнага штаба. Паводле слоў генерал-маёра Флерка, узровень падрыхтоўкі кадраў у Беларускай ваеннай акадэміі будзе не ніжэйшым, чым у расійскай. Мяркуецца, што слухачамі першага набору стануць каля 80 афіцэраў, папярэдні адбор якіх ужо завяршыўся ў войсках.

Герман СЯДОЎ

## Сына не вернешь, но все же...

**Кабинет Министров республики утвердил Положение о порядке назначения и выплаты ежемесячного пособия матери и отцу военнослужащего срочной службы, погибшего или умершего в мирное время (в период, начиная с 3 сентября 1945 года) при исполнении обязанностей военной службы.**

Настоящее положение определяет, что пособие назначается и выплачивается матери и отцу независимо от их трудоспособности, факта работы и получаемой пенсии, заработной платы.

Пособие назначается и выплачивается со дня возникновения права на него. Если право на пособие возникло до 22 февраля 1995 года, пособие выплачивается за период, начиная с этой даты. Пособие исчисляется исходя из размера минимальной заработной платы, установленной в стране на момент его выплаты.

## Свадеб и детей стало меньше

**По данным Гомельского областного управления статистики, за прошедшее полугодие численность населения в области сократилась на 4600 человек.**

Утешением могут служить лишь два факта: уменьшилось число умерших и сократилось количество разводов. Детей родилось на 10,5% меньше, чем за аналогичный период прошлого года. Впрочем, и свадеб, увы, стало меньше. РИД.

Реплика

## Бананы жалко...

История эта не стоила бы и выеденного яйца, если бы не испортившиеся бананы. А впрочем, все по порядку.

Однажды, я был разбужен телефонным звонком прекрасной дамы, которая по совместительству является женой моего школьного товарища. А так как они проживают за тысячу километров в соседней теперь стране, то, несказанно обрадовавшись их неожиданному появлению в нашем городе, я тут же пригласил их в гости.

К назначенному времени, накрыв стол, я стал изнывать от ожидания. Предусмотрительно заброшенное в холодильник шампанское вскоре покрылось инеем, а через пару часов на дне бутылки начали плавать льдинки. Не выдержав жары, "завяли" мои фрукты...

А вот что в это же время происходило на противоположном конце города. Будучи врачом, мой товарищ Виктор в каждый свой приезд в Минск традиционно навещает магазин "Медкнига". Этот раз не стал исключением. Когда жена (тоже, кстати, врач) с племянником все еще блуждали между стеллажами магазина, Виктор вышел в надежде выкурить сигарету. Кто же знал, чем могла обернуться тяга к никотину! Черная бородатая внешность моего приятеля почему-то не внушила доверия трем постовым милиционерам.

— Ваши документы! — потребовал один из них, когда они приблизились к Виктору. Мой приятель, едва не подавившись окурком "Кэмела", попытался объяснить, что его паспорт у жены, а жена — в магазине. Стражам порядка его объяснения показались ну о-очень подозрительными. А потому вскоре Виктор, его жена и племянник оказались в отделении милиции.

Дежуривший в этот день капитан начал задавать всякие "почему?"

— Почему не зарегистрировались по прибытии в Минск?

— Так ведь не знал я.

— Незнание закона не освобождает от ответственности, — отрезал капитан, — ваша жена свободна, а вас придется задержать до понедельника (дело было в субботу).

— Как так до понедельника?

— В понедельник утром будет начальник, он и решит, что с вами делать.

— Но ведь мы в воскресенье вечером должны уезжать.., — фраза наткнулась на неприступное выражение капитанской физиономии.

— Вы в течение суток не зарегистрировались, нарушили закон, значит — будете сидеть до выяснения обстоятельств, — капитан сделал вид, что разговор окончен.

— Впрочем, вы можете заплатить штраф, — вдруг обратился к Виктору капитан.

— Но за что, ведь еще сутки не прошли с тех пор, как я приехал.

— У вас есть проездные документы?

— Нет.

— Ну вот, видите, доказательств у вас нет.

— Но, позвольте, все должно быть наоборот, это вы должны что-то доказывать, а пока вы не докажете, я ни в чем не виновен.

— Нет нужды. Платите штраф.

— Хорошо, у меня есть доказательство. Когда мы проезжали на машине город Жлобин, нас зарегистрировали в ГАИ.

В это время в отделение привели какого-то индуса. Видимо, тоже до понедельника. Но он, наивный, совсем почти ничего не понимал по-русски, и никак не мог вразуметь, что от него хотят, когда ему приказали достать шнурки из ботинок. Несчастный, он стоял посреди комнаты в одних носках и даже не предполагал, когда его отсюда выпустят.

Через несколько часов капитан все же отпустил моего приятеля, настрого приказав явиться назавтра для регистрации.

Так вот, если кто-то подумал, что я это все рассказал, чтобы посетовать на произвол милиции, тот глубоко ошибается. Про милицию вообще бесполезно плохо говорить. Менталитет у них такой. И потом, среди них ведь тоже добрые люди есть. Капитану, который дежурил в ту субботу, персональное спасибо. Да и разве кто-то виноват, что в моем приятеле (наполовину — украинце, наполовину — еврее) постовые рассмотрели "лицо кавказской национальности"?

И вообще, все это ерунда по сравнению с тем, что при моей, мягко говоря, "огромной" журналистской зарплате пришлось выбросить пару кило крымских слив. Жалко было смотреть на портившиеся на глазах бананы и арбузы, которые моим украинским друзьям после нашего традиционно-регистрационного гостеприимства в горло не лезли. Зато вот шампанское мы съели на брудершафт, разбив его на кусочки ножом для колки льда.

Игорь ФЕЛИКСОВ.

Это правда...

## Летом отдыхают бездельники, а настоящий хозяин в это время убирает хлеб и готовится к зиме

Не ручаемся за точность слов, но именно в таком плане выразился недавно, встречаясь с руководителями хозяйств, главный "вертикальщик" Пинского района Василий Дворянинович. При этом добавил: "Сам летом не пойду в отпуск и вас никого не пущу".

Может, с какой-то стороны и не прав председатель райисполкома, но то, что сейчас на сочинских, ялтинских, кипрских пляжах нет ни одного пинского председателя колхоза, — это факт. В поте лица они занимаются уборкой урожая и подготовкой ферм к зиме. И как ни трудно, но дела впечатляют. Чувствуется, что на Пинщине не будет ни голода, ни холода.

Аркадий КУПЧИН.

Дапамажыце!

## Мы хочам, каб нашы дзеці вучыліся на беларускай мове

Шаноўная газета "Народная воля"!

Па дапамогу звяртаюцца жыхары мікрараёна Сухарава-2, што ў Мінску, жадаючыя, каб іхнія дзеці вучыліся на роднай беларускай мове. Але, на жаль, наша жаданне можа застацца толькі жаданнем. Справа ў тым, што рашучая прыхільнасць кіраўніцтва дзяржавы да двухмоўя развязала рукі бюракратам, якім хацелася б забараніць і наогул знішчыць беларускую мову.

Яскравым прыкладам гэтага з'яўляецца дзеянні дырэктара мінскай сярэдняй школы N 212, што ў Сухарава, Андрушчанкі Георгія Уладзіміравіча. У мінулым навучальным годзе ў гэтай школе набіраліся дзеці як у рускамоўныя, так і ў беларускамоўныя пачатковыя класы. У гэтым жа годзе разгубленым і абураным бацькам, дзеці якіх пойдуць у першы клас, дырэктар на сходзе абвясціў, што выкладанне будзе весціся толькі на рускай мове, якога-небудзь зразумелага тлумачэння такому рашэнню бацькі так і не атрымалі, акрамя паведамлення, што ёсць іншыя школы, у якіх выкладаюць на беларускай мове.

Такім чынам, да нашых і без таго шматлікіх жыццёвых цяжкасцей дабавілася яшчэ адна — весці сваіх першакласнікаў не ў бліжэйшую ад дома школу, а некуды, пакульшто невядома куды, дзе яшчэ не забаранілі беларускую мову. Справа ўскладняецца яшчэ і тым, што зараз далёка не ўсім бацькам па кішэні так званая "прадлёнка" і даводзіцца звяртацца да суседак (бабулек, або мам, якія дома даглядаюць маленькіх дзетак). Дык гэта, калі школа побач, а што ж рабіць, калі школа далёка і няма каму забраць малечу з першага класа? Выйсце застаецца адно — тэрмінова забываць сваю родную мову і размаўляць на рускай.

Просьба бацькоў — хаця б пачатковыя класы ў школе N 212 зрабіць і рускамоўнымі, і беларускамоўнымі (здаецца, гэта не так складана, як знайсці настаўнікаў-прадметнікаў, валодаючых беларускай мовай) — пакінута Георгіем Уладзіміравічам без увагі.

Можа, хто-небудзь паўздзейнічае на дырэктара, якому не падабаецца беларуская мова? Здаецца, яна ж яшчэ не забаронена на Беларусі?

**Ад імя жыхароў мікрараёна:**

**ГАЎРЫЛЬЧЫК, АЎДЗЕЙЧЫК, ПІНЧУК, МАРЦЫНКЕВІЧ, ЯКУБОВІЧ, САКАЛОВА, ТАМБОЎЦАВА, АТРАШКЕВІЧ, БАГНАТ, ПАБІРУШКА і іншыя.**

## Да ўвагі падпісчыка!

Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі), пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяўляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастаўцы, таму за нявыхад, несвоечасовы выхад з друку газет і часопісаў адказнасць перад падпісчыкам нясе рэдакцыя (выдавецтва).

Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарніламі, разборліва без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

## Решили прокормиться сами

**В Малоритском районе восемь школьных столовых решили выйти из системы общепита в надежде сделать обеды учащихся более дешевыми.**

Мясо и молоко согласились по сходной цене поставлять шефы-хозяйства, а выращиванием картофеля и овощей отныне займутся сами школьники.

Григорий БЫР.

## Спирт для автомобилей

**На заводе по производству спирта, который находится в деревне Красный Пахарь Рогачевского района и принадлежит Рогачевскому комбикормовому предприятию, применяют альтернативное чистому бензину топливо для автомобильных двигателей.**

Прежде на предприятии производили обыкновенный спирт-сырец. Значительно усовершенствовав технологию, заводчане при тех же затратах сырья стали производить больше спирта, а также получают побочный продукт, на основе которого было создано альтернативное топливо.

Вся техника, принадлежащая спиртзаводу, уже довольно продолжительное время работает на эфирно-бензинном топливе.

Олег ШВЕДОВ.

## "Минималка" для беженца

**Кабинет Министров Республики Беларусь издал постановление, согласно которому государственной миграционной службе по согласованию с Министерством финансов надлежит определить порядок выплаты денежной помощи иностранцам, подавшим ходатайства о признании их беженцами, а также беженцам.**

Так, иностранцы, подавшие ходатайство о признании их беженцами, а также беженцы после регистрации прошения о статусе беженца могут рассчитывать на единовременную помощь в размере одной минимальной заработной платы. Для остро нуждающихся предусмотрена дополнительная помощь в период рассмотрения их ходатайства: на питание — одна МЗП на второй и третий месяцы миграции, но не более двух МЗП за период рассмотрения ходатайства; на приобретение одежды — не более четырех МЗП; на оплату проживания в арендованных пунктах временного поселения — в размере, не превышающем фактическую стоимость одного койко-места по ставке минимального тарифа в гостиничном хозяйстве города (района). После выдачи удостоверения беженца последний вновь единовременно получает на руки одну "минималку".

Расходы Государственной миграционной службы, связанные с реализацией Закона "О беженцах", финансируются за счет республиканского бюджета, поступлений от международных организаций и других государств на основе договоров (соглашений), заключаемых Республикой Беларусь, а также добровольных пожертвований юридических и физических лиц.

РИД.



Удакладненне

## Не "Белінтэраўтасервіс", а "Інтэраўтатранс"

У другім нумары "Народнай волі" надрукавана заметка "Ратуйце ад дзяржаўнага рэкету". У ёй сказана, што "трое іранскіх вадзіцеляў фірмы "Ірыт", якія ажыццяўляюць з Тэгерана пачаўночныя рэйсы праз Расію і паўднёвыя дарогі Беларусі ў краіны Заходняй Еўропы, звярнуліся ў Гомельскае ўпраўленне КДБ з заявамі аб вымагальніцтве валюты супрацоўнікамі мытні, ДАІ, аддзялення дзяржаўнага прадпрыемства "Белінтэраўтасервіс" на аўтапераходзе "Селішча" ў Добрушскім раёне".

Дык вось,у гэты сказ укралася недакладнасць. На самай справе гаворка ідзе не пра аддзяленне дзяржаўнага прадпрыемства "Белінтэраўтасервіс", а пра аддзяленне дзяржаўнага прадпрыемства "Інтэраўтатранс".

Рэдакцыя просіць прабачэння ў супрацоўнікаў "Белінтэраўтасервісу" за памылковае ўпамінанне арганізацыі ў вышэйзгаданай заметцы.

Выжывем?

## Даеш камерцыю па ўсяму маршруту!

Па рашэнню Гомельскага гарвыканкама з 10 жніўня 4 тралейбусныя маршруты скасоўваюцца, яшчэ на іншых паменшае на 27 машын. Павялічыцца інтэрвал руху. Апроч таго, скарачаецца 29 прыпынкаў, некаторыя маршруты рэарганізоўваюцца. Пасля 21.00 ўсе тралейбусы становяцца камерцыйнымі: ад прыпынку да прыпынку гараджанам прыйдзецца плаціць кругленькую тысячу.

Такім чынам гарвыканкам разам з транспартнікамі шукае выйсце са становішча татальнай адсутнасці грошай. Горад завінаваціўся прадпрыемству "Гарэлектратранспарт" звыш 11 мільярдаў рублёў. Апошні заробак выплачваўся электратранспартнікам два месяцы таму. 41 тралейбус з 244 нельга выпускаць ужо на лініі: яны дабітыя, а на запчасткі няма сродкаў.

Прыдуманае новаўвядзенне, аднак, ніяк не ўлічвае інтарэсы тых гамяльчан, хто менавіта пасля дзевяці гадзін вечара змушаны дабірацца дадому з другой змены на прадпрыемстве, дзе таксама па некалькі месяцаў не плацяць зарплату. Застаецца спадзявацца, як заўважыў выконваючы абавязкі генеральнага дырэктара жыллёва-камунальнай гаспадаркі гарвыканкама Рыгор Шыцікаў, што прадпрыемствы набудуць праязныя білеты для сваіх работнікаў і на камерцыйныя рэйсы.

Марыя ШЫМАНОЎСКАЯ.

